Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 ЧЭРВЕНЯ 2020 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Пайшла ад зэка пагалоска, што можна «адкасіць» ад войска...

У Оршы затрымалі 36-гадовага мясцовага дзецюка, які называў сябе «смотрящим» за горадам. Раней ён быў не раз судзімы. «Смотрящий» браў у прызыўнікоў хабар за тое, што ён нібыта гарантуе адтэрміноўку ад службы ў войску. У праваахоўныя органы звярнуліся два юнакі, якія і хабар далі, і служыць давялося...

Брыдкі звычай ёсць, які
Варта нам прызнаць па-свойску:
Часам «косяць» юнакі –
Ігнаруюць службу ў войску.
Каб не слаў ваенкамат
Позвы «гідкія» ў кватэру,
Хто шукае нейкі блат,
Хто спрабуе афіцэру
«Даць на лапу» ладны куш
І яго задобрыць... Словам,
Кожны круціцца, як вуж,
Толькі б быт не стаў вайсковым –
Служба ім не па нутру,
Так сказаць, шынель не грэе...
З той нагоды махляру
Нейк у клёк прыйшла ідэя.
Ён не проста прайдзісвет,
А ў мінулым зэк адпеты.
Справу ведае як след –
Пазайздросцяць прайдзісветы.
Заявіў усім наўпрост,
Што «смотрящий» ён па Оршы.
Мэр займае важны пост,
Ды ў яго зусім не горшы.
Гэта значыць, можа ён
Справу вырашыць любую,
Ну а слова як закон –
Выканання патрабуе.
Сам жа ён прыклаў руку,
Каб узнікла пагалоска,
Што за куш прызыўніку
«Адкасіць» ільга ад войска.
І знайшліся бараны,
Маладыя ахламоны.
Адгукнуліся яны
На махлярскі кліч ягоны.
Мелі, мусібыць, наўме:
Б'юць паклоны, як іконе,
Быццам «пахану» ў турме,
Людзі злодзею ў законе.
Два, прынамсі, юнакі
Гэтак думалі таксама.
Папрасілі:
– Кашалькі
Даставайце, тата й мама!
Чалавек паможа нам –
Ён галоўны сам у Оршы.
Дык адстане ваенкам,
Як «бугру» дадзім мы грошы.
І напраўду аддалі,
Хоць ніводзін не багаты,
Хоць апошнія рублі
Ашчадзілі мамы й таты.
– Пойдзем заўтра ў інстытут, –
Гаварылі, – а не ў войска.
Ды якраз не кропка тут –
Іх, на жаль, чакала коска.
Сапсаваўся іх настрой,
Дый была наогул драма,
Як пачулі «Стаць у строй!»
Ад маёра-ваенкама.
Знаць павінны й халтама
Быццам двойчы два – чатыры:
Войска – гэта не турма,
Там другія камандзіры...

***

Калі трэба, маладзён,
Паслужы сваёй Радзіме!
Мой жа сціплы фельетон
Хай маральны дух узДыме...

### Вырас...

Якія даросласці меркі?
Што вырас ты, вызначыць як?
Прыхоўвае мама цукеркі,
А тата хавае каньяк...

### Матылёк стаў арлом

Паправілася маладзіца
І гэтак тлушчам зарасла,
Што матылёк на паясніцы
Ператварыўся
У арла...

### Парада пра парады

Давацць парады кожны рад.
І я вам раю прама:
Не слухаце чужых парад!
І гэтую таксама...

### Час вылечвае...

Нібыта вылечвае час –
Прынамсі, ёсць думка такая.
Таму ў паліклініцы ў нас
Я ў чэргах так доўга чакаю...

МЕРКАВАННЕ

# Дзень незалежнасці... ад здаровага сэнсу?

Даўно мне не дае спакою адно пытанне: паводле якой логікі дата 3 ліпеня стала ў Беларусі адзначацца як Дзень Незалежнасці? Незалежнасці ад каго? Ад Германіі Беларусь у палітычным сэнсе ніколі не залежала. Нават падчас акупацыі 1941–1944 гадоў былі цэлыя мясцовасці, куды не ступала нага нямецкага салдата. І не толькі ў агульнавядомых партызанскіх зонах.

Сам я вырас у вёсцы, да якой у гады вайны можна было дабрацца толькі па вузкай, як для адной падводы, дарозе праз дрымучы лес. Да бліжэйшага нямецкага гарнізона на чыгуначнай станцыі было 30 кіламетраў, да партызанскага лагера – рукой падаць. Мае аднавяскоўцы і немцаў за ўсю вайну толкам не бачылі. Дык чаму адзін дзень вайны з гітлераўцамі – 3 ліпеня – стаў Днём Незалежнасці?

Нават днём вызвалення Мінска яго называць не выпадае. Звернемся да кнігі вядомага пісьменніка Іллі Эрэнбурга «Людзі, гады, жыццё». Ён пісаў: «*У Мінск я трапіў 4 ліпеня. Танкісты напярэдадні прарваліся ў горад і тут жа пайшлі далей на захад. У паўднёвых кварталах горада яшчэ ішла страляніна. Я пагладзеў на доўгую вуліцу і ўзрадаваўся: амаль усе дамы непашкоджаныя. А праз чвэрць гадзіны прагрымелі выбухі, і дамоў не стала. Буйныя варожыя сілы засталіся на ўсходнім баку ад Мінска, уцяжа было прахацыць у горад – на шашу нечакана выходзілі немцы, адкрывалі мінамётны агонь*».

Магчыма, цывільны чалавек І.Эрэнбург няправільна ацаніў абстаноўку ў «нявызваленым 3 ліпеня» Мінску? Пагартаем мемуары савецкага разведчыка, Героя Савецкага Саюза палкоўніка Станіслава Ваўпшасава. Ён успамінаў, што, калі са сваім атрадам (5–6 ліпеня) знаходзіўся ў Мінску, на вуліцах яшчэ ішлі баі. То як можна лічыць вызваленым горад, у якім не склалі зброю салдаты рэгулярнай арміі праціўніка? Застаецца дадаць, што мемуары Ваўпшасава і па датах, і па фактах мусяць быць дакладнымі – усё напісанае афіцэрамі спецслужбаў праходзіла спецыяльную рэдактуру.

Так што, як ні круці, дата 3 ліпеня не падыходзіць як Дзень вызвалення Мінска ў каляндар Перамогі. Тым больш недарэчна выглядае яна ў святочным календары Рэспублікі Беларусь як Дзень Незалежнасці. Фальшывае свята атрымліваецца...

**Алег АСІПОВІЧ, мінчанін.**

ТВОРЧАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

## Прачнуліся людзі...

Царква павучае: улада ад Бога.
Ты ж, парабак цёмны, павінен маўчаць.
Як толькі заенчыў – твой шлях да астрога,
Да скону жыцця атрымаеш пячаць.

Маліся, працуй і не думай аб долі,
А лепей заўсёды цярпі і маўчы...
А як загаворыш – пазбавішся волі,
Бо слухае «вуха» і ўдзень, і ўначы.

Чаго не хапае? Ёсць чарка і скварка,
Народу не страшны «каронапсіхоз»...
Ды нешта ледзь рухаецца гаспадарка –
Ці конь аслабеў, ці сцяжэрыўся воз?

Прачнуліся людзі – нібы ачунялі,
Свой голас узнеслі да самых нябёс
І выйшлі, і ў шчыльныя шэрагі сталі,
І змен патрабуюць без гвалту і слёз.

Дай, Божа магутны, усім зразумеці:
Не дзеля вайны Ты праліў Сваю кроў –
Каб кожнаму з нас тут куточак свой меці
Каб нас аб'ядналі спакой і любоў.

**Алесь КЛЫШКА.**

*Мінск.*

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

## Как получить американскую визу?

***Хочу поехать к дочке, которая учится в Нью-Йорке. Скажите, можно ли сейчас в Минске получить американскую визу? Слышала, что некоторые посольства еще не возобновили работу...***

**Светлана ПОЛХЛЕБ, Минский район.**

Вот что говорят по поводу виз в посольстве США: «В связи с глобальной ситуацией в области здравоохранения в настоящее время посольство США в Минске не принимает заявления на оформление и возобновление неиммиграционных виз. Мы все с нетерпением ждем возобновления работы в обычном режиме, но в настоящий момент мы не знаем, когда это произойдет. Пожалуйста, следите за нашими социальными сетями и страницей посольства в интернете для получения более подробной информации».

**Галина РУТ.**

РЕЗОНАНС

## Оставил после себя сомнительный след...

Прочитав колонку Михася Скобелы «Хоць вялікая луста – пасярэдзіне пуста», не могу остаться равнодушным. Дело в том, что главный «герой» статьи Анатоль Астапенко – личность мне хорошо знакомая. С тех времен, когда в начале 1990-х годов в Беларуси почти одновременно с Белорусским Народным Фронтом возникла Национал-демократическая партия под руководством Алеся Емельянова и Анатоля Астапенко. Ее штаб-квартира находилась тогда в Доме литератора.

Не оставаясь в стороне от тогдашних общественно-политических процессов, я тоже вступил в эту партию. Наконец-то, подумал, буду работать с настоящими патриотами Беларуси. Я активно участвовал во многих общественных акциях и был избран членом высшей рады Национал-демократической партии. Помню, для меня было загадкой, почему на фоне все возрастающей активности БНФ наша партия вела себя пассивно и медленно пополнялась новыми членами.

Разгадка пришла позже, когда А.Емельянов публично, на страницах «Народной газеты», признался, что долгое время являлся секретным сотрудником КГБ. Понятное дело, это шокировало всех членов партии. Конечно, мириться с таким явлением мы не могли. Был срочно созван сход высшей рады, на котором А.Емельянов был исключен из партии. Его место занял А.Астапенко. И что же? Он продолжил работу по разложению и дискредитации Национал-демократической партии.

Новый руководитель от имени партии выступал с абсурдными инициативами, предлагал перенести столицу из Минска в Могилев. Всячески очернял работы историка Миколы Ермоловича, дословно говорил: «*Ён сляпы, як крот, нічога не бачыць, ні ў чым не разбіраецца, яго кнігі нічога не варты*». А еще неоднократно внушал членам партии, что в случае прихода к власти БНФ с Зеноном Позьняком начнется война с Россией и т.д.

После того как партийный съезд лишил А.Астапенко руководящих полномочий, он отказался передать документы и печать новому руководителю и был исключен за это из партии. Пробовал создать новую организацию, но ничего у него не вышло. Астапенко продолжительное время выдавал себя за независимого политика и совал нос во все щели. И везде оставил после себя сомнительный след.

И вот теперь, как следует из статьи Михася Скобелы, этому горе-политику доверили писать книги для серии «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». И о ком он сразу же пишет? О... М.Ермоловиче, которого поносил на чем свет и называл «слепым кротом». А как и что он написал – об этом рассказано в «100 радках» уважаемого автора.

**Алесь КАНАПЕЛЬКА.**

*Минск.*

РЭПЛІКА

## Мне тое пячэнне ў рот не палезе...

Люблю аўсянае пячэнне – смачнае, карысное, пажыўное. З зёлкавай гарбатай – смаката! Днямі папрасіў унучку купіць. Прынесла – цэлую ўпакоўку. Але ўпершыню мне тое пячэнне ў рот не палезла. Справа ў тым, што вялізнымі літарамі на ўпакоўцы напісана: «Годуновъ». Якія асацыяцыі ў вас выклікае такая назва? Правільна, з расійскай гісторыяй, з адным з маскоўскіх цароў (законным ці незаконным – хай самі расіяне разбіраюцца).

Спачатку я падумаў, што пячэнне тое прывезлі да нас з Масквы. Аказалася – яго вырабляе мінскі хлебазавод №6, які ўваходзіць у КУП «Мінскхлебпрам».

Няўжо ў беларускай мове, у якой, паводле Генеральнай картатэкі Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук, больш за 2 мільёны слоў, не знайшлося адметнага слоўца для назвы аўсянага пячэння? Навошта нам той «Годуновъ»?

Хачу паведаміць сталічным хлебапёкам з імперскімі замашкамі: я больш не буду купляць вашу прадукцыю! І заклікаю ўсіх чытачоў «Народнай Волі» зусім з мяне прыклад. Можа, хоць такім чынам мы адвучым нашу прамысловасць ад ганебных прарасійскіх назваў.

**Сяргей ЖУКОЎСКІ, пенсіянер.**

*Мінск.*

З НАТУРЫ

## Падобнае прыцягвае падобнае

Сапсаваўся прас. Калі купляў, то выбраў яго, бо быў ён мой «зямляк» – берасцейскай вытворчасці. Праслужыў мне ...нацьцаць гадоў, а цяпер, пэўна, выпрацаваў свой рэсурс. Паехаў я ў краму «Сандрык», што на так званым праспекце імя «Праўды» (праспект так званы, бо гэта звычайная вузкая і кароткая вуліца). Прыехаў і пытаюся, ці ёсць берасцейскія прасы. І чую:

– Производство прекращено.

Патрыятычна настроены, памятаючы заклік «Купляйце беларускае!», пытаюся, ці ёсць прасы іншых айчынных вытворцаў. У адказ:

– Завод имени Ленина приостановил производство, потому что нет комплектующих.

І ўсё. Як відаць, той, хто абяцаў запусціць заводы, сваё абяцанне выканаў: сапраўды запусціў.

Але прасаваць трэба. Таму пытаюся ў прадавачкі: а што ў вас ёсць? Паказвае мне мо дванаццаць прасаў на паліцы.

– Утюги китайского производства:

– Усе?

– Все.

І чаму я, беларус, застаюся без выбару, мушу падтрымліваць кітайскага, а не айчыннага вытворцу?

І наогул: ці не занадта загуляўся гэты рэжым у абдымонах з хіжым кітайскім камуністычным рэжымам? Чаму на той самай паліцы няма тайваньскіх, паўднёвакарэйскіх, японскіх вырабаў? Што ні кажы, а краіны перадавыя і ў тэхналагічных, і ў культурных, і ў палітычных адносінах. Каранавірусам свет не заражаюць.

Зрэшты, маё пытанне рытарычнае. Як заўважыў адзін мудрэц, падобнае прыцягвае падобнае. Кантынентальны Кітай, Іран, Венесуэлу і гэтак далей.

***

Тым часам з маёй малой радзімы паведамляюць: аднаго журналіста «Ганцавіцкага часу» аштрафавалі на 30 базавых велічынь, а другога арыштавалі на 15 сутак.

У нас яшчэ не Цяньаньмэнь.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

НЕЗАБЫЎНАЕ

# «ВУЧЫЛКА»

***Прайшло больш за палову гадзіны, а яе ўсё не было. У хаце, дзе размяшчалася наша школа, было холадна, ды яшчэ мы, адчыняючы адзін за адным шырокія дзверы, напусцілі марознага паветра. Сіротка Вольга, якая з'яўлялася адначасова і ўладальніцай памяшкання, і прыбіральшчыцай, і захавальніцай парадку, увайшла ў клас і адрапартавала:***

– Не прыйдзе, мабыць, ваша Зінаіда Георгіеўна. За акном вунь якая завіруха, за ноч так усё замяло, што ёй, бедачыне, з Карпілаўкі да нашай Нежаўкі і на кані не дабрацца. Ідзіце вы па хатах ды ўрокі вучыце.

Для нас гэта было амаль святам. Вучыцца ўсім было нялёгка. Пасля ваеннага ліхалецця ні падручнікаў, ні сшыткаў, ні алоўкаў, ні чарніл ні ў кога з нас не было. Ды і ўмоў для заняткаў – аніякіх. У адной хаце з самаробнымі партамі туліліся ўсе чатыры класы «пачаткоўкі». Вучні ад сямі да чатырнаццаці гадоў амаль ніколі паміж сабой зладу не знаходзілі. Пераросткі ваеннага часу заўжды імкнуліся выставіць сябе гаспадарамі, амаль што намеснікамі настаўніцы, якую яны па-свойску велічалі «вучылка». А як жа, раз вучыць – значыць, вучылка!



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

Зінаіда Георгіеўна Юдо была першай нашай настаўніцай пасляваеннага часу. Найдабрэйшы чалавек! Можа, нават і таму, што ці то лёс, ці то Божа ўсемагутны неяк незаслужана пажартавалі з яе знешняга выгляду. Яна была дужа маленькага расточку з-за прыроджанага скаліёзу. Гарбок яе не вельмі выпінаўся на прыземістай фігурцы, ды нібы прыціскаў дзяўчыну да зямлі. Але з твару яна была анёльскай прыгажосці. Чорныя густаватыя бровы, пышная прычоска з маленечкім банцікам на макаўцы, кірпаты невялічкі носік, вусны-маляванкі, зубкі як часнок. Усмешка ў яе была да таго прывабліваю, што ўсім, гледзячы на настаўніцу, таксама хацелася ўсміхацца. А яшчэ – характар! Яна проста не ўмела прыдзірацца, была незлапамятная, не мела звычкі адразу ставіць дрэнную адзнаку ў самаробны класны журнал. На месцы двойкі ці нават адзінкі вырастала ледзь прыкметная кропачка. А назаўтра на гэтым месцы вучань абавязкова атрымліваў тройку, чацвёрку ці нават пяцёрку, бо не вывучыць матэрыял было сорамна перад усімі чатырма класамі.

А яшчэ ў Зінаіды Георгіеўны на правай руцэ быў куртаты мезенец. Калі на ўроку арыфметыкі яна, забыўшыся, падымала гэтую руку і пыталася, колькі ў яе пальцаў, хтонебудзь з пераросткаў абавязкова выкрыкваў: «Чатыры!» Настаўніца ўсміхалася і тут жа падымала левую руку з растапыранай далонню...

У той непагодлівы ранак, з якога я пачынаў свой аповед, мы усё-такі разляцеліся па хатах, каб хоць крыху сагрэцца ў цяплейшых родных сценах. Ды неўзабаве былі разасланы па сяле вестуны, што запрашалі ўцекачоў зноў вярнуцца на заняткі. Мокрая ад снегу і поту, «вучылка» па гурбах і цаліку перадолела восем кіламетраў шляху, і ўсе мы звыкла спасцігалі ніхітрыя, але ж надта патрэбныя нам веды.

Зразумела, што не ўсім навучэнцам даспадобы прыйшліся напорыстасць новай настаўніцы, шчырае жаданне даць дзецям вайны прапушчаную магчымасць стаць адукаванымі людзьмі. Неяк пераростку чацвёртакласніку Васілю Каптурку, што ўвесь урок арыфметыкі круціўся і спісваў прыклады ў суседкі па парце, Зінаіда Георгіеўна паставіла шматлікіх заўваг і папярэджанняў вымушана была ўляпіць двойку па дысцыпліне. Той ускіпеў, дэманстратыўна выскачыў з класа і памчаў дадому.

Скончыўшы заняткі, настаўніца таропка шыбавала ў напрамку сваёй Карпілаўкі – ды якраз ка міма Васілёвых веснічак. А той нічога разумнейшага не прыдумаў, як нарваць каля плоту пук пякучкі-крапівы, выскачыць на вуліцу і пасекчы «вучылку» па голых ільтах. Тая збянтэжылася, засукала нагамі, але, заўважыўшы каля хлеўчука Васілёву маці, аклікнула яе і зайшла ў двор. Выслухаўшы пра такі недарэчны ўчынак сына, Антолька шуганула за ім у хату, схапіла за валасы, зняла з цвічка трапкач і так адсвяціла Васілька, што ён два дні ў школу не заглядваў – хаваўся каля рэчкі ў кустах, каб маці не заўважыла яго прагулаў. А калі на трэці дзень гора-вучань вымушаны быў вярнуцца ў клас, Зінаіда Георгіеўна прыняла яго візіт як належную справу. Пасля ўрокаў прапанавала хлопцу застацца і паясніла Каптурку, што вучыць дзяцей ёй даверыла дзяржава, што скончыла яна педвучылішча на адны пяцёркі і менавіта ў Нежаўскую пачатковую школу накіравана высокім раённым начальствам. Так што хоча ён таго ці не, а падпарадкоўвацца агульнапрынятым правілам проста абавязаны.

Калі прасачыць далейшы лёс Васіля Каптурка, дык навука пайшла яму на карысць. Пасля сямігодкі паехаў хлопец у Мінск, скончыў прафесійна-тэхнічнае вучылішча, потым тэхнікум і да самай пенсіі працаваў на камвольным камбінаце. А пра тую праклятую крапіву ўспамінаць яму было ну надта ж сорамна.

Зінаіда Георгіеўна Юдо была чалавекам адукаваным, начытаным. Якое б пытанне мы ёй ні задавалі, адказ быў імгненны, зразумелы ўсім, поўны. А яшчэ ёй былі ўласцівы такія рысы характару, як прынцыповасць, педантычнасць, далікатнасць.

Памятаю мне такі выпадак. Неяк наша сям'я спраўляла вяселле бацькавай пляменніцы Волькі, якая, рана асірацеўшы пасля заўчаснай смерці маці, жыла ў нашай хаце на правах дачкі. Вечар адсвяткавалі, але ж у сяле была няпісаная традыцыя розныя сямейныя гулянкі прадаўжаць і назаўтра, і паслязаўтра. Збіраюся я раніцою на заняткі, а матуля мая загарнула ў чысценькую анучку некалькі салодкіх сухарыкаў і дае мне даручэнне, каб я пачаставаў настаўніцу. Скажы, маўляў, што гэта ад маладых.

Дачакаўся я настаўніцу з Карпілаўкі і без усялякіх прадмоў працягваю ёй пакуначак, як вучыла мама. Зінаіда Георгіеўна пачырванела і, не ўзяўшы пачастунак, кажа:

– Не трэба, Мішка, забяры назад.

А я і рады: за пакунак ды ў парту. Ну не кожны ж дзень такія прысмакі трапляюцца мне самому ў тыя галодныя часы. Пра настаўніцу я нават і не падумаў. А яна прывіталася з усімі вучнямі і паясніла:

– Запомніце, дзеці: ніякіх пачастункаў настаўніца ад вучняў браць не павінна – ні яблыкаў, ні груш, ні цукерак, ні вось такой самакаты, як у Мішкі. Не сярдуйце, але гэта нам строга забаронена.

І ўсе мы зразумелі: задобрыць нашу прынцыповую «вучылку» нікому з нас нічым не ўдасца.

Зінаіда Георгіеўна вяла практычна ўсе чатыры класы нашай «пачаткоўкі» адначасова. Давала ўсім заданні па вывучаемых прадметах, выклікала вучняў да настаўніцкага стала, і мы ўсе адначасова слухалі адказы і першакласнікаў, і старэйшых навучэнцаў. А Зінаіда Георгіеўна ўмела яшчэ да кожнага з нас знайсці той запаветны ключык, які здольны быў адамкнуць любыя замочкі нашых сэрцаў. На каго трэба – прыкрыкне, але не злосна, каго па галоўцы пагладзіць, каму вусную вымову вынесе перад усімі вучнямі.

Шкада было, калі наша паважаная «вучылка» пасля летніх канікул у Нежаўскую пачатковую школу больш не вярнулася. Мы ўсе разумелі: штодзённа здзяйсняць васьмікіламетровы рэйд ёй з яе здароўем проста не пад сілу. Ды і месца выкладчыка бліжэй да роднага дома нечакана вызвалілася. Так што пасля першага класа я ніводнага разу з Зінаідай Юдо і не сустрэўся. Але ж добрая памяць пра шаноўную выкладчыка, педагога і проста цудоўнага чалавека жыве ў маёй памяці і па сённяшні дзень. Пераканаць, што і не толькі ў маёй, але і ва ўсіх, хто рабіў свае першыя крокі ў навуку пад яе пільным і добразычлівым поглядам.

**Міхась ЗНАК.**

*Мінск.*

К БАРЬЕРУ!

# Спецпрокуратура Гааги предъявила президенту Косово обвинения в военных преступлениях



Специальная прокуратура международного суда по преступлениям в Косово (SPO) в Гааге (Нидерланды) предъявила обвинения президенту Республики Косово **Хашиму Тачи** в преступлениях против человечности и военных преступлениях, совершенных в 1998–1999 годах.

Обвинительное заключение в отношении Тачи, бывшего спикера косовского парламента **Кадри Весели** и ряда других лиц содержит десять пунктов, в том числе обвинения в убийствах, похищениях людей, преследованиях и пытках. В заключении утверждается, что Тачи, Весели и другие обвиняемые ответственны почти за сотню убийств. Среди жертв оказались представители косовских албанцев, сербов, цыган и других этнических групп, а также политические оппоненты обвиняемых.

Из-за предъявленных обвинений Тачи отказался от поездки в Вашингтон, где должна была состояться встреча представителей Косово и Сербии. Об этом сообщил в микроблоге Twitter спецпредставитель США по урегулированию конфликта между Сербией и Косово **Ричард Гренелл**.

В Спецпрокуратуре отметили, что официальное уведомление об обвинениях выпущено в связи с тем, что Тачи и Весели «*предприняли повторные усилия*» для того, чтобы помешать расследованию. Предполагается, что они тайно пытались добиться отмены закона о создании международного суда по преступлениям в Косово. «*Совершая эти действия, Тачи и Весели поставили свои личные интересы выше жертв своих преступлений, закона и всего народа Косово*», – считают в Спецпрокуратуре.

ВНИМАНИЕ!

# Обнаружен способ уничтожения коронавируса за 25 секунд

*Ученые из Национальной лаборатории инфекционных заболеваний (NIEDL) Бостонского университета совместно с компанией Signify обнаружили способ уничтожения коронавирусной инфекции за 25 секунд.*



Отмечается, что ультрафиолетовое излучение специальных ламп эффективно инактивирует SARS-CoV-2. Специалисты в ходе эксперимента обработали загрязненный вирусом материал различными дозами ультрафиолетового излучения ламп. Выяснилось, что при дозировке 5 миллиджоулей на квадратный сантиметр распространение коронавируса снижается на 99 процентов за шесть секунд. При воздействии в 22 миллиджоуля на квадратный сантиметр вирус уничтожается практически полностью за 25 секунд.

Ранее в июне американские и китайские ученые пришли к выводу, что люди могут никогда не выработать антитела к коронавирусу, поскольку в некоторых случаях они исчезают после выздоровления пациента. Специалисты пришли к такому выводу, изучая появление иммунитета у медицинских работников города Ухань, ставшего первым очагом коронавирусной эпидемии. Медики непосредственно контактировали с зараженными пациентами на ранней стадии вспышки инфекции. Выяснилось, что не менее четверти из 23 тысяч исследуемых врачей могли заразиться коронавирусом, однако только 4 процента выработали антитела.

ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

# Лолита потребовала лишить бывшего мужа прописки в Москве



Российская певица **Лолита Милявская** обратилась в Басманный суд с иском о принудительном выселении бывшего мужа **Дмитрия Иванова** из принадлежащей ей квартиры в Москве. Об этом адвокат поп-исполнительницы **Сергей Жорин** рассказал «*Московскому комсомольцу*».

Звезда требует лишить экс-супруга прописки, так как он больше не проживает в апартаментах и не платит за коммунальные услуги. «*Он многократно обещал самостоятельно сняться с регистрационного учета, но до сих пор этого не сделал. Лолите ничего не оставалось делать, как обратиться в суд*», – пояснил Жорин.

Адвокат уточнил, что певица не будет взыскивать с Иванова деньги, которые она была вынуждена платить за формально прописанного в квартире жильца.

4 июля 2019 года Лолита в соцсетях объявила, что рассталась с мужем, поскольку супруги долгое время оставались равнодушными друг к другу. Она пожелала Иванову всего лучшего и заверила подписчиков, что уже не переживает из-за произошедшего. Иванов – пятый муж Лолиты Милявской. Они поженились в марте 2010 года.

СТАТИСТИКА

## Названа разница в продолжительности жизни мужчин и женщин в России

Как показывают данные по ожидаемой продолжительности жизни в России, женщины живут в среднем на 10 лет дольше мужчин. Об этом заявил глава Минздрава **Михаил Мурашко**.

«*Разница между ожидаемой продолжительностью жизни мужчин и женщин, как и в предыдущие годы, составила 10 лет*», – сказал министр. Он подчеркнул, что ожидаемая продолжительность жизни россиян в целом, по оценкам Росстата, увеличилась и составила 73,3 года. По мнению Мурашко, этого удалось достичь благодаря снижению младенческой смертности.

Ранее сообщалось, что в 2019 году ожидаемая продолжительность жизни россиян составила 73,4 года, достигнув исторического максимума. В Минздраве тогда связали рост этого показателя со значительным снижением смертности трудоспособного населения (мужчин в возрасте от 16 до 59 лет и женщин в возрасте от 16 до 54 лет). По данным ведомства, в 2019 году смертность среди трудоспособных женщин снизилась на 2,1 процента, среди мужчин – на 3,5 процента.

ЛИКБЕЗ

## Свекла официально признана суперпродуктом

Специалисты считают, что свекла эффективно регулирует кровяное давление. В ней есть нитраты, превращающиеся в теле в оксид азота, расширяющий сосуды. Именно это позволяет снизить давление, вместе с тем уменьшая риск инсульта и инфаркта. К тому же оксид азота усиливает приток крови к головному мозгу.

Плюс к этому свекла способна подавлять воспаление – секрет кроется в беталаине, природном пигменте. А, как известно, воспаление стоит за целым набором заболеваний, включая болезни сердца, рак и поражения мозга. Эксперты ссылаются на исследование, в рамках которого наблюдали за спортсменами, пившими свекольный сок. Это идеальный спортивный напиток, уменьшающий усталость, остроту мышечной боли после тренировок (так работают нитраты, снижающие нагрузку на сердце и легкие, параллельно усиливающие работу мышц).

В целом, как доказали эксперименты с профессиональными велогонщиками, свекольный сок повышает выносливость и способствует улучшению спортивных показателей. Эксперты советуют употреблять свеклу в виде сока, добавлять ее в смузи и салаты в сыром виде. Также полезны натуральные чипсы из свеклы и маринованная свекла.

СТИХИЯ

## В Индии за один день от ударов молний погибли более 100 человек

25 июня на востоке и севере Индии от ударов молний погибли 107 человек.

Грозовые ливни, которые принес в Индию летний муссон, застали людей во время работы в поле. Они проигнорировали предупреждения чрезвычайных служб, которые объявили повышенный уровень опасности, и не стали спасаться от непогоды в домах.



У СОСЕДЕЙ

# «Большая стройка» Зеленского: сделают ли в Украине нормальные дороги?

*Президент Украины Владимир Зеленский задумал амбициозный проект «Большая стройка». Цель – за два года построить и провести капитальный ремонт 6,5 тысячи километров автодорог. Зеленский заявил, что хочет стать президентом, «после которого в Украине наконец-то появятся дороги».*




## В аварийном состоянии

По подсчетам Центра анализа общественных финансов и публичного управления Киевской школы экономики, на реализацию «Большой стройки» уйдут рекордные суммы. Из бюджета выделят 105,6 миллиарда гривен (8% расходной части), при этом 35 миллиардов из них Верховная Рада взяла из фонда по борьбе с COVID-19.

А если добавить еще и кредит в 19,3 миллиарда, выданный государственным «Укрэксимбанком» «Укравтодору» под гарантии, то на строительство и ремонт дорог в стране в текущем году собираются потратить в общей сложности 124,9 миллиарда гривен. Для сравнения: в прошлом году было израсходовано 50 миллиардов, в 2018-м – 38 миллиардов.

Капитальная реконструкция дорожного покрытия в Украине необходима, поскольку две трети из 24 тысяч километров основной сети автодорог страны сейчас находятся в ненормативном или аварийном состоянии.

## Нефть дешевеет, асфальт дорожает

Юрий Николов, соучредитель проекта «Лига антитраста», в рамках которого изучаются госзакупки, соглашается с тем, что дороги в Украине давно надо ремонтировать, а некоторые – восстанавливать почти с нуля. Но эксперт предупреждает, что масштабная президентская инициатива может превратиться в популистский проект. «*Уже прошло полгода после старта «Большой стройки», а на месте некоторых будущих дорог ветер гуляет в полях. Физически отремонтировать в этом году возможно не более 2000 километров. И то если будут своевременные поступления в бюджет*», – отметил Николов.

Счетная палата Украины подтверждает опасения экспертов. Аудиторы указывают, что, согласно бюджетной отчетности за январь–апрель, сохраняются значительные риски невыполнения госбюджета страны в 2020 году, прежде всего доходной части. Однако даже те деньги, что сейчас выделяют на дороги, могут исчезнуть в коррупционных сделках, не исключает Николов.

По его словам, эксперты «Лиги антитраста» проанализировали госзакупки асфальта по контрактам «Большой стройки» и пришли к выводу, что он должен закупаться вдвое дешевле. Цена нефти, которая составляет значительную часть в себестоимости асфальтобетона, сейчас сильно упала.

«*Снижение цены на нефть должно вести к удешевлению асфальта, но в Украине все наоборот. Самые ходовые марки асфальта в тех тендерах, где нам удалось найти сметы, подорожали с 3000 до 4000 гривен за тонну. Это традиционная украинская черта – «прикуривать» по дороге. То есть закладывать свою маржу в крупных инфраструктурных проектах*», – говорит Юрий Николов.

## Картельный сговор или забота о качестве?

Кроме того, продолжает Николов, «Укравтодор» подготовил новые методические рекомендации для участников тендеров: установлены жесткие требования к минимальному количеству техники и наличию у подрядчика опыта проведения работ.

Юрий Николов, участвовавший в рабочей группе Министерства развития экономики, торговли и сельского хозяйства, которое утверждает эти методические рекомендации, называет позицию «Укравтодора» «картельным сговором». В результате утвержденных требований от участия в тендерах на ремонт и строительство дорог отсекается часть подрядчиков, которые могли бы выполнить эти работы дешевле, поскольку тогда была бы конкуренция на рынке.

Из-за общественного давления «Укравтодор» смягчил требования к фирмам-подрядчикам. «*Это компромисс, который позволяет участвовать в тендерах не пяти компаниям, а хотя бы двум десяткам. Но сейчас «Укравтодор» будто забыл о компромиссе и проводит тендеры по своим жестким требованиям*», – посетовал эксперт.

Их необходимость глава «Укравтодора» Александр Кубраков объясняет тем, что дороги должны быть сделаны качественно и быстро – ведь именно такую задачу поставил президент Зеленский. Кубраков признает, что требования высокие, но все это ради качественных дорог, которые не будут рассыпаться на следующий год после капремонта. По его словам, чтобы цена и качество оказались соответствующими, контролировать выполненные работы будет независимый технадзор, проводить который приглашены компании из Польши, Франции и Австрии.

НА ПОРОГЕ ВОЙНЫ

# Камни, палки, два врага

Индия и Китай вновь оказались на пороге войны – такие сообщения всколыхнули информационное пространство после столкновения индийских и китайских военных на спорном участке границы. Ядерный статус конфликтующих держав по умолчанию повышает градус напряжения, ведь последствия такого противостояния могут оказаться без преувеличения глобальными. Тем более на этот раз по мере поступления новой информации становилось ясно: последний инцидент – не чета тем мелким стычкам, что регулярно случаются на границе. В этот раз счет жертв пошел на десятки. Что делят Индия и Китай в Гималаях и чем может обернуться этот неприятный инцидент на границе, выяснила «*Лента.ру*».

Столкновение на спорном участке индийско-китайской границы произошло в ночь на 16 июня в районе Ладакх. О потерях с обеих сторон стало известно только на следующий день – сначала информация просочилась в СМИ, и речь шла о десятках жертв. Вскоре Министерство обороны Индии сообщило о гибели 20 человек. Китай не стал официально публиковать данные о своих потерях, поэтому можно ориентироваться лишь на данные индийского агентства *ANI*. Оно сообщило о 43 пострадавших китайцах, включая погибших и тяжелораненых.

Главный вопрос – каким образом стороны, которые всего лишь две недели назад договорились отвести войска от границы, допустили конфликт с таким количеством жертв? И это при том, что военные обеих стран отказываются применять огнестрельное оружие как раз для сохранения жизни солдат. Очевидно, разгадка кроется в масштабах инцидента с обеих сторон: в драке участвовали около 500 человек. К тому же конфликт вспыхнул поздним вечером, и темнота лишь усугубила положение.

*News 18 India* утверждает, что в процессе разведения сил китайцы должны были убрать одну из палаток, в которой жили солдаты, но вместо этого они просто переставили ее в другое место. Это не понравилось индийцам, которые пренебрегли установленными правилами разрешения подобных споров и просто решили прогнать противников со спорной территории.

Завязалась рукопашная, в которой сильнее оказались индийцы. Но китайцы и не думали сдаваться: как только индийские солдаты уснули, они забрались вверх по скалам и принялись забрасывать спящих камнями.

Индийцы снова кинулись в драку, но на этот раз удача им изменила – китайцы к тому времени уже вооружились кусками металлических труб и арматуры, к тому же обмотанными колючей проволокой. Индийцам пришлось спешно отступать, прыгая с пятиметровой высоты в холодную бурную реку Галван (Цзялэвэньхэ), протекает вдоль линии контроля). Кто-то утонул из-за полученных травм, кто-то из-за переохлаждения. Тела погибших со следами ударов о скалы позднее выловили ниже по течению.



Народная Воля http://www.nv-online.info
30 ЧЭРВЕНЯ 2020 г.

ПОСТАЦЬ

# Шчырая размова з Віктарам Скорабагатавым

**Віктар Скорабагатаў** – *чалавек унікальных музычных здольнасцяў і энцыклапедычных ведаў у сваёй галіне. Налета адзначыць 70-гадовы юбілей, але пра спакой толькі марыць: ні на дзень не спыняе канцэртную, даследчыцкую, педагагічную дзейнасць. Як суразмоўца выклікае вялікае задавальненне.*



## Радзівілы на паўзе: канцэрты і гастролі скасаваны

Дзякуючы Скорабагатаву і ягоным калегам, якія працавалі ў архівах Варшавы, Кракава, Масквы, Лондана, Берліна, Нью-Ёрка, у беларускую культуру вярнуліся такія кампазітары, як Ян Голанд, Антоні Радзівіл, Станіслаў Манюшка ды іншыя.

Ён аўтар больш як 200 навуковых артыкулаў і манаграфій, галоўны рэдактар дзясяткаў нотных зборнікаў. Адзін з заснавальнікаў фестываляў, якія сталі знакавымі падзеямі: «Адраджэнне беларускай капэлы» (Мінск), «Фэст старасвецкай культуры» (Дудуткі), «Магутны Божа» (Магілёў), «Убельская ластаўка» (Ігумен-Чэрвень).

Паслядоўны нашчадак старэйшых калег Яраслава Вашчака, Уладзіміра Машэнскага, Сямёна Штэйна. Адзін з найлепшых камерных выканаўцаў, рэпертуар якога складаюць каля 600 твораў айчыннай і ўсясветнай класікі. А яшчэ паспяховы менеджар: рэжысёр Вялікага тэатра оперы і балета, стваральнік і кіраўнік «Беларускай капэлы», прафесар вакалу Беларускай акадэміі мастацтваў.

Праўда, сёлета градус актыўнасці давялося істотна астудзіць. Віной таму – пандэмія.

*«Вядома, шмат планаў пайшло марна,* – наракае артыст. – *Штогод у чэрвені наш Вялікі тэатр ладзіць музычныя вечары ў Нясвіжскім замку Радзівілаў. Сёлета з вядомых прычын давялося традыцыю парушыць. Шкада, вядома, бо «Беларуская капэла» падрыхтавала вельмі цікавую праграму. Ведаю, што некаторыя канцэрты пераносяць, але ж гэта шматдзённая імпрэза, якая патрабуе падрыхтоўчых высілкаў, таму сёлета проста скасавалі. Але што галасіць? Што ёсць, тое і ёсць…»*

У канцы красавіка «Беларуская капэла» планавала паказаць адну са сваіх праграм у Вільнюсе. Як кажа Віктар Іванавіч, арганізатары ўжо нават развесілі ў горадзе афішы. А ў выніку таксама давялося адмовіцца ад планаў – межы на замку. Сам ён да навалы ставіцца з усёй сур'ёзнасцю, пра «псіхоз» не можа быць і гаворкі.

*«А як інакш? Мы што, не ведаем лічбаў? Я не пра нас, пра еўрапейскую, амерыканскую статыстыку. У навінах «Еўраньюс» кожныя 15 хвілін расказваюць, дзе, што і ў якой колькасці. Ці гэта дурня валяюць, што не могуць сабрацца ні парламенты, ні кіраўнікі дзяржаў? Скасавалі ўсё па ўсім свеце, уключаючы музычныя, тэатральныя, кінафестывалі. Людзі рэальна баяцца. І беларусы таксама, хоць і спрабуюць задавацца. Не хацелі скасоўваць спектаклі, але калі ў Оперны пачалі вяртаць па 300–400 квіткоў штодня, давялося. Калі няма гледачоў, перад кім выступаць?»*

## Новае ў прафесіі: экзамены вакалістаў праз скайп

Наклала пандэмія адбітак і на выкладчыцкую дзейнасць: так, курсавыя іспыты давялося прымаць праз скайп. Такога ў ягонай 35-гадовай педагагічнай практыцы яшчэ не было. Пасля сыходу больш як 10 гадоў таму з Беларускай акадэміі музыкі Віктар Скорабагатаў працуе на тэатральным факультэце Беларускай акадэміі мастацтваў, вучыць студэнтаў сцэнічнай мове і вакалу.

*«Што зробіш? Час такі. Няма магчымасці сустракацца непасрэдна. Якая звычайна адлегласць паміж педагогам і студэнтам? Метр-паўтара. А калі адзін за адным ідуць… Хто ведае, чым абернецца. Натуральна, музычныя калектывы ў скайпе не збіраюцца, а індывідуальныя заняткі тэарэтычна і, як выявілася, практычна можна ладзіць. Вядома, узровень зусім не той, які пажаданы пры натуральным гучанні, – што б ні казалі, камп'ютарны гук не зусім жывы. Але як ёсць. Застаецца спадзявацца, што ў наступным навучальным годзе ўсё нармалізуецца».*

Творца кажа, што вымушаны максімальна засцерагацца. Пры ягоным букеце хвароб любы вірус небяспечны, а «ўкаранаваны» – тым больш.




Канцэрт «Беларускай капэлы» ў нясвіжскім Фарным касцёле.



У статусе асноўнага саліста тэатра оперы і балета.

*«Я добраахвотна самаізаляваны, без аніякага прымусу. Балазе заняцца ёсць чым – хутчэй, наадварот, часу ў сутках замала, столькі працы, а яшчэ больш планаў. На вуліцы стараюся бываць мінімальна: маску і пальчаткі нацягнуў, у краму заскочыў – і хутчэй назад. У мяне такія хваробы, што лепш не рызыкаваць. Напрыклад, цукровы дыябет. Пачытаў, што сумяшчэнне з каранавірусам дужа небяспечнае. Не дай божа падчапіць, і больш нікуды не выйдзеш, ужо толькі панясуць»,* – знаходзіць нагоду пажартаваць мой суразмоўца.

Сям'ю Скорабагатавых каранавірус не абмінуў. Больш за месяц з дыягназам «COVID-19» правёў у хатняй ізаляцыі сын Іван. Не выходзіў нават у краму, прадукты дастаўлялі дадому. Пашчасціла, што хвароба прайшла адносна лёгка, шпіталізацыя не спатрэбілася. Затое цалкам змяніў пачатковае стаўленне да хваробы – ад здзекліва-іранічнага да разумення сур'ёзнасці пагрозы. Дзе падчапіў? Бацька не выключае, што якраз падчас працы. Яна звязана з наведваннем медыцынскіх устаноў.

*«Адбыў дома, правяралі, каб куды не сышоў. І лёгкадумнае стаўленне як рукой зняло: цяпер у масцы, пальчатках, бутэлечка з антысептыкам. Недзе дакрануўся – на далоні абавязкова папшыкае. Ён займаецца рамонтам дакладнага абсталявання ў паліклініках, лякарнях. Дарэчы, кажа, што сітуацыя непараўнальная з той, што была 1,5–2 месяцы таму. Вірусныя – праз адзін калідор, іншыя – праз другі. Нарэшце развялі, каб не сядзелі, як раней, кучаю. Яшчэ і гэта было прычынай, каб дыстанцыравацца. А мне зусім нельга спадзявацца, што пройдзе лёгка. Вось і сяджу ў хаце».*

## Аблавухі талент: ад бардаўскіх песень да La Scala

Віктар Скорабагатаў нарадзіўся 15 лістапада 1951 года ў Мінску. Са слоў маці, радзільня была недалёка ад іхняга дома на вуліцы Стаханаўскай: прыбрала пакой, памыла посуд і «пайшла нараджаць». А калі хлопчыка першы раз прынеслі карміць, замест замілавання пырснулі слёзы – гэтак уразіла аблавухасць сына. Толькі бабуля суцяшала: ніводзін гук не прапусціць, стане музыкантам.

Іншае паданне аб паходжанні прозвішча. 150 гадоў таму ягоны прапрадзед ува ўсіх дакументах быў Пятром Мілавідавым. Але ў новым пасведчанні раптам стаў… Скорабагатавым. Так ахрысцілі сябрукі пасля таго, як ён выйграў у карты шынок. Зрэшты, пажыўное месца ва ўласнасці пабыло нядоўга, хутка гэткім жа чынам прайграў. Але паспеў прыдбаць мянушку «скорага на багацце». У статусе прозвішча яна перайшла і да праправнука.

Віця выдатна вучыўся ў 22-й сталічнай школе і, як прадказвала бабуля, цягнуўся да музыкі. Першыя эмацыйныя ўражанні звязаны з класікай – тагачаснае тэлебачанне вяло багата трансляцый канцэртаў і оперных пастановак. А для штодзённага карыстання былі барды. Бацька набыў гітару, і неўзабаве над пасёлкам Трактарнага завода пачалі разносіцца песні Высоцкага, Візбара, Кукіна, Крупа ды іншых модных выканаўцаў.

У 1968 годзе паступіў у мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі. І хоць меў толькі 16 гадоў, а на вакальнае аддзяленне прымалі кандыдатаў не маладзейшых за 18, так уразіў камісію, што быў прыняты з 19 баламі з 20 магчымых. Вучылішча месцілася ў будынку былога гарадскога тэатра, навучэнец спяваў на сцэне, дзе ўпершыню ў 1852 годзе прагучала опера на беларускай мове – «Сялянка» Станіслава Манюшкі і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Тады ён пра гэта не ведаў. Але амаль праз паўстагоддзя спрычыніўся да з'яўлення помніка яе стваральнікам.

Ужо налета надышоў мабілізацыйны ўзрост, і яму прапанавалі папоўніць шэрагі прафесійнага ансамбля песні і танца савецкага Балтыйскага флоту. На вялікай сцэне «творчы матрос» дэбютаваў у Ленінградзе.

Пасля дэмабілізацыі, маючы ўнікальны харавы досвед, у ліпені 1972 года паступіў у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю.

Спеўны апарат вучня рабіўся эластычным і цягавітым. Для тых, хто ў тэме, удакладняе: дыяпазон голасу пашырыўся ад нізкага басовага «фа» да высокага тэнаровага «до». У 1977 годзе самародка запрасілі ў Оперны тэатр, дзе ён у экстрэмальным рэжыме праслужыў да 2005-га: спектаклі, канцэрты, гастролі, запісы ў радыёстудыі, выступленні па тэлебачанні, здымкі ў кіно. Плюс узваліў на сябе педагагічную нагрузку, захапіўся даследчыцкай, рэдактарскай і рэжысёрскай працай.

Ужо на трэці год у тэатры атрымаў статус асноўнага саліста, а ў 1979-м стаў лаўрэатам самага прэстыжнага ў СССР конкурсу вакалістаў – імя Глінкі. Неўзабаве прыйшло і міжнароднае прызнанне: у 1980-м трапіў у лік дыпламантаў конкурсу вакалістаў у Парыжы. Пасля гэтага атрымаў стыпендыю UNESCO для стажыравання ў міланскім тэатры La Scala.

## Аднаўленне страчанага: місія «Беларускай капэлы»

У кастрычніку 1990 года Віктар Скорабагатаў апублікаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» артыкул «Без падмурка ўзнавіць немагчыма». Там выклаў канцэпцыю калектыву «Беларуская капэла», сарыентаванага на ўзнаўленне забытых пластоў прафесійнай музычнай культуры. І ўжо ў чэрвені 1992-га Міністэрства культуры заснавала пры Оперным тэатры аднайменную творчую арганізацыю, аўтар ідэі стаў мастацкім кіраўніком.

Ён дагэтуль дастае з архіўнага пылу беларускую музычную спадчыну. Дзякуючы ягоным намаганням з'явіліся на свет такія выданні, як «Музыка старажытных сядзіб», «Беларускі гістарычны нотазбор», «Мікола Равенскі. Збор твораў», «Зайгралі спадчынныя куранты», «Абышоўся без славы. Кампазітар Ян Тарасевіч», «Беларуская вакальная музыка часу барока», «Вакальная музыка часу класіцызму».

Рэканструяваў оперы Яна Голанда «Агатка» і «Чужое багацце нікому не служыць». У супрацы з прафесарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ганнай Каржанеўскай падрыхтаваў цыкл канцэртных праграм «Анталогія беларускай вакальнай музыкі XVI–XX стагоддзяў».

Летась Беларусь святкавала 200-годдзе з дня нараджэння славутага кампазітара і дырыжора Станіслава Манюшкі. Віктар Скорабагатаў шмат гадоў вяртае беларусам ягоную спадчыну – і з «Беларускай капэлай», і як даследчык. Удакладняе, што летась праз надзвычай шчыльны графік не паспелі рэалізаваць усе задумы, таму сёлета працу працягваюць.

*«Звязваюся з калегамі праз інтэрнэт, абмяркоўваем выданні. Так, выйшаў збор «Лібрэта опер Манюшкі» на беларускай мове. Тут і абедзве «Галькі» (двух- і чатырохактовая), «Страшны двор», «Латарэя», «Ідылія». Выдалі, як назваў сам Манюшка, «Песні нашага касцёла» – арганныя, вакальныя творы ў перакладзе на беларускую мову. Цяпер рыхтуем два харавыя зборнікі. Некаторыя творы вядомыя і выконваюцца, але ёсць і такія, што не гучалі. Калі Манюшка працаваў арганістам у Вільні, яму не дазволілі выдаць. Тое стала магчыма, як стаў дырэктарам Варшаўскай оперы».*

## Віртуальныя выбары: альтэрнатыва пад прэсінгам

З улікам знаходжання ва ўразлівай групе патэнцыяльных кавіднікаў за апошнімі палітычнымі падзеямі Віктар Скорабагатаў гэтаксама сочыць у віртуальным фармаце. Перадвыбарную актыўнасць беларусаў вітае.

*«На жаль, пры маіх хваробах усякія кантакты небяспечныя, таму лепей заставацца дома… Што да прэтэндэнтаў, практычна нікога з іх не ведаў. Але калі потым пачаў глядзець-чытаць – ну што ж, цікавыя асобы! Чаму не паспрабаваць? І дзякуй богу, што атрымліваецца сабраць вакол сябе столькі прыхільнікаў, у ранейшыя кампаніі такога не было. А тое, што некаторых пачалі прэвентыўна прэсаваць, паказвае толькі на страх улады. Значыць, наверсе адчулі, што гэта рэальная канкурэнцыя»,* – дапускае ён.

Што падштурхнула людзей выказваць салідарнасць з апанентамі дзейнага кіраўніка дзяржавы, стоячы ў кіламетровых чэргах, рызыкуючы быць затрыманымі? Калі выходзяць, значыць, ёсць незадаволенасць цяперашнім станам рэчаў, працягвае мой суразмоўца.

*«30 гадоў таму ўжо было такое. Ну хто мог падумаць, што ў 1990-м выйдуць на вуліцу МАЗ, МТЗ, іншыя заводы? Дзясяткі тысяч рабочых рушылі на плошчу перад Домам урада. Іх жа ніхто не гнаў у плечы, гэта ўлады давялі да ручкі. Так і сёння. Нельга агулам сказаць, якія абставіны кіруюць кожным чалавекам. Тым не менш яны вельмі падобныя. Бо гэта не адзінкі, а сотні, тысячы тых, хто мае патрэбу ў сістэмных пераўтварэннях. А мо і мільёны, проста з розных прычын не ўсе могуць выказаць сваю пазіцыю, не кожны мае такую адвагу».*

Палітычныя рэжымы ў Беларусі і Расіі «ўдасканальваюцца», пазычаючы адзін у аднаго механізмы «прыватызацыі» ўлады. Ад 1 ліпеня «абнуляецца» Канстытуцыя пад расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Ці не пад гэтае ноў-хаў і ставараўся так званая Саюзная дзяржава?

*«Мне здаецца, у Расіі ўсё ж рэалізуецца казахстанскі сцэнарый,* – лічыць Віктар Скорабагатаў. – *Гэта калі для імітацыі дэмакратыі кіраўнікі мяняюцца пасадамі, падводзяць да таго, што тое не іх асабістая прыхамаць, а пажаданне народа і г.д. У нас спроб саступіць месца, хоць бы часова, не было, тут крыху іншая схема. І прычына, можа, нават не ў тым, каб учапіцца «пасінелымі пальцамі» за ўладу як з'яву, колькі магчымасць штосьці з яе мець – стабільна і рэгулярна».*

**Ігар КАРНЕЙ** *(Радыё Свабода).*

ШАШКІ

## Бліц-конкурс

Прапануем знайсці выйгрыш за белых у наступных кампазіцыях пастаянных аўтараў.



№1 ***Іван Наўроцкі*** *(гл.дыяграму)* **Белыя**: a7, b6, c7, e3, e5, f2 (6).
**Чорныя**: b2, b4, c3, d8, e7, h2 (6).

Аўтар №№2–4 – ***Дзмітрый Камчыцкі.*** Суаўтар №4 – вядучы рубрыкі.

№2 **Белыя**: a3, c5, c7, e3, g5, h6 (6).
**Чорныя**: a7, b4, b8, e5, e7, f8, g3, g7 (8).

№3 **Белыя**: a7, e1, f2, f4, g3, g5, h6 (7).
**Чорныя**: b6, c3, c5, d6, e7, f8, g7, h2 (8).

№4 **Белыя**: a3, a5, c1, c7, d4, e3, e5, f2, f4, h6 (10).
**Чорныя**: b6, b8, d2, d6, f8, g5, g7, h4, h6 (9).

№5 ***Генадзь Андрэеў*** **Белыя**: e5, e7, f4, g1 (4).
**Чорныя**: c7, g3, h2, h4 (4).

## Прывітанне з Арменіі

Знаёмім з новымі кампазіцыямі складальніка з Арменіі **Ншана Алывердзяна** ў апрацоўцы вядучага рубрыкі. Рашыце самастойна па-за конкурсам.

№6 **Белыя**: a5, b4, b6, f4, g3, g5, h6 (7).
**Чорныя**: c3, d2, d8, e3, e7, h8 (6).

№7 **Белыя**: a5, b4, c5, d2, d6, g7 (6).
**Чорныя**: b2, f2, f4, f8, h6 (5).

№8 **Белыя**: b4, b6, c5, d4, e5, g3 (6).
**Чорныя**: a3, a7, b2, g5, g7 (5).

## Французскі госць



На электронны адрас вядучага рубрыкі свой новы эцюд-100 даслаў вядомы французскі шашачны кампазітар **Мішэль Сабатэр.** Прапануем яго вашай увазе.

№9 **Белыя**: простая 43, дамкі 10, 50 (3).
**Чорныя**: простыя 16, 30, 31, 45 (4).
38(34**А**), 6(40), 46(21), 50(44), 37, 33 х. **А**(36), 5(34), 6(21), 38-32(41), 27, 46(50), 46-28 х.

## Старыя сябры

Далей прапануем кампазіцыі ў міжнародныя шашкі нашых пастаянных аўтараў.

№№10–12 прадставіў ***Іван Наўроцкі.***

№10 **Белыя**: 6, 11, 19, 23, 27, 28, 30, 31, 32, 36, 37 (11).
**Чорныя**: 1, 8, 10, 12, 13, 16, 24, 26, 35, 39, 44 (11).
21, 18, 47, 7, 41, 1, 33, 50 х.

№11 **Белыя**: 12, 18, 22, 23, 27, 29, 31, 34, 38, 48, 49 (11).
**Чорныя**: 1, 3, 9, 10, 14, 20, 35, 36, 40, 44, 45 (11).
8, 7, 19, 7, 40(44**А**), 33, 43, 2(16**В**), 17, 17-11, 50 х.**В**(21), 16, 50 х. **А**(34),33, 43, 2(16**С**), 17, 17-11, 45 х. **С**(21), 16, 45 х.

№12 **Белыя**: 11, 22, 27, 28, 31, 32, 39, 43, 44, 45, 50 (11).
**Чорныя**: 6, 17, 19, 23, 24, 25, 30, 34, 36, 38, 41, 42 (12).
7, 11(17), 2, 34, 44, 8, 20, 3, 36 х.

№ 13–15 – дамачныя праблемы ***Віктара Шульгі.***

№13 **Белыя**: простыя 7, 8, 21, 27, 37, 45, дамкі 42, 46 (8).
**Чорныя**: простыя 35, 39, 43, дамкі 36, 49 (5).
48(16**А**), 40, 44 х. **А**(11), 17, 44, 39 х.

№14 **Белыя**: простыя 19, 29, 40, 48, дамкі 2, 45 (6).
**Чорныя**: простыя 10, 20, 21, 22, 35, 44, дамка 49 (7).
43(13**А**), 4(50**В**), 16, 49 х. **В**(49), 16, 50 х. **А**(8), 16(49**С**), 2, 50(16), 11 х. **С**(50), 21/43, 49 х.

№15 **Белыя**: простыя 7, 30, 49, дамкі 2, 16, 24 (6).
**Чорныя**: простыя 18, 21, 23, 27, 35, 37, 39, 40, 44, 45, дамка 11 (11).
2-13, 34(24**А**), 35, 40, 44 х. **А**(29), 15, 50(28), 6, 49-44 х.

## Супаставім рашэнні

«Народная Воля» за 26 мая 2020 года.
**№1** – f8, b6, a3(f2), g3, d6x.
**№2** – d8, h4,f4(b2), e5x.
**№3** – b8, d6, a3, e3, e1x.
**№4** – b6, b8, g3, c1(e1), h6(c3), d2, f2x.
**№5** – a3, a1, c3, g3, e3, g5x.
**№8** – 25,19,2,16-11,20, 46 х.
**№9** – 7, 12,5, 28, 15 х.
**№10** – 30-24, 44, 17-12, 1, 18-12, 25 х.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч, Павел Каролік** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск), **Уладзімір Барысёнак** (Віцебская вобл.). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, «Шашкі»*** – або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА.**

УСМІХНІЦЕСЯ!

Тараканы могуць выжыць пасля ядзернай вайны, а вось пасля ўдару газетай – не могуць. Гэта яшчэ раз даказвае, наколькі сур'ёзная зброя сучасных СМІ.

***

Мой кот пачынае нервавацца, таму што я ўжо колькі дзён безвылазна жыву ў яго кватэры.

***

Седзячы на каранціне, мы спазналі, што такое сем пятніц на тыдні.

***

Варажбітка раскладвае карты перад кліентам:
– Да пяцідзесяці гадоў вы будзеце пакутаваць ад недахопу грошай…
– А потым?
– А потым прызвычаецеся.

***

У краме.
– Учора я набыла ў вас коўдру. Вы запэўнівалі мяне, што яна цалкам ваўняная, а на цэтліку напісана «акрыл 100 працэнтаў».
– Гэты цэтлік быў прышыты адмыслова – каб увесці ў зман моль.

***

– Чым адрозніваецца асцярожнасць ад баязлівасці?
– Калі баімся мы – гэта асцярожнасць. А калі нехта іншы – гэта баязлівасць.

***

Муж з жонкай доўга спрачаюцца. Нарэшце муж кажа:
– Ну добра! Будзь па-твойму!
Жонка:
– Позна! Я ўжо перадумала.

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №93/106 ад 30.04.2004. 220013, Мінск, пр-т Незалежнасці, 79/1. Падпісана ў друк 29.06.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 21 667 экз. Заказ № 1971.